Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# рэгіянальная газета

16 лютага 2001 года
№ 7 (304)
Цана ў розніцу 110 рублёў

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### «Маладзечанская сакавіца–2001»

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшло пасяджэнне аргкамітэта сёмага тэатральнага фестывалю "Маладзечанская сакавіца", які пройдзе ў горадзе з 16 па 18 сакавіка.
Акрамя абласнога драматычнага тэатра спектаклі і творчыя сустрэчы пройдуць у музычным вучылішчы, а таксама ў Вілейцы. Чакаюць у госці і вядомых артыстаў з Расіі.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Новы міжнародны праект

ВАЛОЖЫН. Старшакласнікі СШ №2 райцэнтра возьмуць удзел-у сумесным праекце па ахове навакольнага асяроддзя. Акрамя беларусаў, у ім паўдзельнічаюць школьнікі Германіі і Венгрыі. Па перапіссы ўжо акрэсленыя агульныя мерапрыемствы, а ў бліжэйшы час будуць вызначаныя агульныя напрамкі. Мяркуюцца паездкі ўдзельнікаў праекта адзін да аднаго ў госці. Сам праект будзе доўжыцца з чэрвеня 2001 года па жнівень наступнага.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Маршруты не зменяцца

СМАРГОНЬ. Аўтобусная сетка на 2001 год у раёне поўнасцю захаваная.
І гэта нягледзячы на страты, якія панёс мясцовы аўтапарк па выніках сваёй работы за мінулы год. Пасажырскія і грузаперавозкі прынеслі страт на 33,2 мільёны рублёў. Машынны парк папоўніўся на 5 адзінак. Купілі два дызельныя аўтобусы ЛАЗ і тры машыны "Нёман" вытворчасці Лідскага аўтазавода.

Павел МАКЛЮК.

### Кожнаму гледачу – па мяккім месцы

МЯДЗЕЛ. Мяккія крэслы, нарэшце, з'явіліся ў зале Дома культуры райцэнтра. Замянілі яны старыя драўляныя рады.
Кожнае новае крэсла абышлося ў 20 тысяч рублёў. З–за перабудовы пабольшала і агульная колькасць месцаў у зале. Цяпер яна можа змясціць 210 ахвочых паглядзець кіно ці канцэрт.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Спіс тавараў, вызваленых ад падатку на продаж, павялічыўся

МАЛАДЗЕЧНА. Амаль усе нехарчовыя тавары айчыннай вытворчасці, акрамя мэблі, вырабаў з футра, аўтамашын і вылічальнай тэхнікі, з 1 сакавіка вызваляцца ад мясцовага 5–працэнтнага падатку на продаж.
Такое рашэнне было прынята на нечарговай сесіі Савета дэпутатаў у мінулую пятніцу.
– Гэтая мера знізіць плануемыя паступленні ў гарадскі бюджэт з 500 да 200 мільёнаў рублёў, – заўважыла загадчык фінансавага аддзела гарвыканкома Паліна Вашкевіч.
Сродкі, атрыманыя ад увядзення падатку на продаж, плануецца накіраваць на газіфікацыю прыватных дамоў Залінейнага раёна (Лясных).

Аддзел інфармацыі "РГ".

### За энергію плацяць не ўсе

СМАРГОНЬ. На суму 5,8 мільёна рублёў склалі летась актаў работнікі энерганагляду за раскраданне электраэнергіі.
Па стане на 1 лютага запазычанасць спажыўцоў складае 286,5 мільёна рублёў. Сельская гаспадарка павінна амаль два мільярды.

Павел МАКЛЮК.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 17 лютага

**Мінск**
-7 – 1°С (уначы)
-5 – 3°С (удзень)



**Вільня**
0°С (уначы)
2°С (удзень)



Нядзеля, 18 лютага

**Мінск**
-7 – -4°С (уначы)
-3 – -2°С (удзень)



**Вільня**
-3°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Сёння ў Талуцы свята

**ВІЛЕЙКА. Свята пад назвай "Да нас прыйшоў святы Пакроў" праводзіць сёння народны дом вёскі Талуць.**

Тут імкнуцца не забывацца на традыцыі продкаў. Калектыў, што рыхтуе свята, немалады. Самаму малодшаму з 17 чалавек – 72 гады. Але ўсе да гэтай справы ставяцца сур'ёзна, рэгулярна збіраюцца на рэпетыцыі.

Удзельнікі і гледачы ўбачаць і паслухаюць даўнейшыя танцы і песні. Пабачаць касцюмы той пары. Падобным чынам святкуюцца, дарэчы, зажынкі і дажынкі.

Пенсіянеры, якіх у вёсцы пад 80% – актыўная частка жыхароў. У Талуці бібліятэку, што знаходзіцца ў гэтым жа Доме, наведваюць пастаянна.

Ёсць у Талуці маладыя і таленавітыя. 8–гадовы **Максім Руткоўскі** добра засвоіў пляценне з саломкі. Гавораць, што навучыла цётка Міра – дырэктар Народнага дома **Міраслава Сільвановіч**.

У час канікулаў Максім заходзіць на работу да маці. Яна працуе ў Народным доме бібліятэкарам. Казку ёй прачытаць – не праблема для Максіма.

– Цяжкавата выжываць у гэты час, – гаворыць М. Сільвановіч. – Дапамагае, што некаторыя свае работы мы прадаем. Вось і цяпер рыхтуем 6 капялюшоў і 6 паясоў.

Юрый КАРПІЦКІ.



Максім Руткоўскі, якому ўжо восем год, як не без гонару зазначае ён, выдатна пляце саламяныя капелюшы.

Фота Яўгена СТАЛЬМАХА.

■ ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МЯДЗЕЛЬЦАЎ

# Чаго ж не хапае ў Мядзеле?



**Анатоль Малько, інжынер электрасувязі:**
– Хацелася б, каб сюды прыязджалі вядомыя артысты. Было б дзе адпачыць: казіно, боўлінг. Падобныя рэчы ёсць на Нарачы, але туды далекавата ехаць.



**Алена Васількоўская, работнік фінансавага аддзела райвыканкома:**
– Як згадаю, што тут пражыву ўсё жыццё, блага робіцца. Няма дыскатэкі, булачак немагчыма на сняданак купіць, тратуара няма добрага на дарозе дадому. Была б мая воля, з'ехала б адсюль назаўсёды.



**Таццяна Малевіч, старшы падатковы інспектар:**
– Магазіны жудасныя па сваім стане і утрыманні. На маю думку, некаторыя дзяржаўныя магазіны трэба перабудаваць ці зачыніць. У бліжэйшай будучыні ў Мядзеле ніколі не будзе тэатра. А ў астатнім скажу, што тут жыць можна.



**Казімір Куцкевіч, вадзіцель РВЭС:**
– Раней прывозілі вілейскі хлеб, які па цане і якасці лепшы за мясцовы. Цяпер яго няма. Нам трэба душыцца "пластылінам". На маю думку, трэба, каб была канкурэнцыя.

Заканчэнне апытання на 3-й стар.

Фотаапытанне мядзельцаў падрыхтавалі Юрый Карпіцкі і Яўген Стэльмах (фота).

# На Маладзечна наступае жаўтуха

**МАЛАДЗЕЧНА. За першы месяц года ў горадзе і раёне зарэгістравана 10 выпадкаў захворвання вірусным гепатытам А. Што ў 10 разоў больш за аналагічны перыяд мінулага года.**

## Яу усё пачыналася

– Успышка захворванняў сталася нечаканай нават для работнікаў цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, – гаворыць урач–эпідэміёлаг **Алена Бельская**. – Бо з 1990 года ішло пастаяннае зніжэнне хворых.

Летась спачатку назіралася тая ж карціна: за першыя 7 месяцаў зарэгістравана 2 выпадкі. Успышка пачалася ў жніўні. "Вінаваты" ў гэтым дзіцячы летнік у Даманаве. У многіх кліентаў апошняй змены пасля знайшлі гепатыт. У раёне найбольш пацярпела школа–інтэрнат у Радашковічах (12 чалавек захварэлі), у горадзе – СШ №6 (3 чалавекі). У абедзвюх навучальных установах дзеці, якія захварэлі першымі, былі ўлетку ў Даманаве. Усяго за апошнія 5 месяцаў XX стагоддзя захварэлі 94 чалавекі.

Зімой захварэла 4 аднакласнікі СШ №8. Апошнія пацыенты – 3 навучэнцы палітэхнікума.

Урачы сцвярджаюць, што гэта – гепатыт немясцовага паходжання. У СШ №8 хлопчык заразіўся ад бацькі, які выязджаў у камандзіроўку, а ўсе палітэхнікумаўскія хворыя – іншагароднія. Дзве дзяўчыны са Смаргоні і адна – з Ліды. Яны між сабой не кантактавалі.

## Што будзе, калі вы захварэеце?

21 дзень бальнічнага "санаторыя" пад капельніцамі гарантавана. Яшчэ з паўгода вы будзеце знаходзіцца пад медыцынскім наглядам. На працягу года патрэбна захоўваць дыету: нельга вострага, смажанага, ні кроплі спіртнога. Будзеце харчавацца малочнымі прадуктамі ды вітамінамі. Хіба гэта жыццё?

## Ці чакаецца эпідэмія?

Далейшы рост захворванняў не выключаецца. Магчыма, што цяпер у некага ідзе інкубацыённы перыяд (чалавек ужо хворы, але сімптомаў яшчэ няма) ці нехта хварэе на іншыя формы (знешне здаровы чалавек невядома для сябе заражае іншых).

Сезонны пад'ём гепатыту цягнецца да сакавіка–красавіка. Потым хвароба ідзе на спад, бо людзі менш часу кантактуюць паміж сабой і больш часу праводзяць на адкрытым паветры.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Лабарант клінічнай лабараторыі Маладзечанскай гарбальніцы Ірына Скарнякова за аналізамі крыві.**

## Хто часцей хварэе?

Дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту. Па–першае, у іх найбольшая праблемы з асабістай гігіенай, па другое, звычайна чалавек да 30 год набывае імунітэт.

Каб найменш пастрадаць ад гепатыту, урач–эпідэміёлаг Алена Бельская раіць: часцей мыць рукі і пры патрэбе звяртацца па дапамогу да ўрачоў, бо першыя сімптомы могуць быць падобныя да прастудных ці проста адзначацца "усеагульная млявасць і абыякавасць да жыцця".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 8 лютага | 15 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1220,00 руб. | **1230,00** руб. |
| Нямецкая марка | 579,96 руб. | **578,64** руб. |
| Літ | 304,92 руб. | **307,46** руб. |
| Расійскі рубель | 42,84 руб. | **42,90** руб. |
| Злоты | 300,31 руб. | **300,11** руб. |
| ЕЎРА | 1134,29 руб. | **1131,72** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1210 – 1240 руб. | **1200 – 1220** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 7.02 | 14.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6642 | **6642** |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1250 | **1100** |
| Рыс, 1 кг | 460 | **460** |
| Грэчка, 1 кг | 470 | **470** |
| Цукар, 1 кг | 558 | **555** |
| Алей, 1 л | 670 | **670** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 670 | **670** |
| Маянэз, 200 г | 210 | **200** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | **1300** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 420 | **380** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | **360** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 180 | **170** |
| Капуста, 1 кг | 150 | **155** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1250** |
| Апельсіны, 1 кг | 980 | **1000** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 900 | **900** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 1000 | **1000** |
| Малако, 1,5 л | 400 | **400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | **900** |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | **700** |
| Морква, 1 кг | 250 | |

■ СЕСІЯ ГАРСАВЕТА

# Гандляроў мяркуецца падраўняць

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрымальнікам, што гандлююць на рынках горада, пакуль пашанцавала. Дэпутаты гарсавета на сесіі не зацвердзілі ўвядзенне дадатковага збору.**

Згодна з праектам рашэння, кожны за права гандляваць на рынку з 1 сакавіка дадаткова мусіць выкласці ад 2 да 4 мінімалак за кожны гандлёвы пункт. Велічыня падатку залежыць ад таго, якім таварам гандлюе прадпрымальнік.

Сёння пройдзе яшчэ адна нечарговая сесія гарсавета. На ёй дэпутаты зноў вернуцца да гэтага пытання. Ініцыятарам праекта выступіў гарвыканком. Мэты на папярэдняй сесіі агучыла загадчыца фінансавага аддзела **Паліна Вашкевіч**:

– Новы падатак на продаж патрэбна ўвесці дзеля таго, каб гандаль (рынкі і магазіны – рэд.) быў у роўных умовах.

Атрымаецца, што за павышэннем цэнаў у дзяржаўнай гандлёвай сетцы нас чакае ўзняцце цэнаў і на рынках горада. У бюджэт мяркуецца прыцягнуць дадаткова ад 200 да 300 мільёнаў рублёў – прыкладна столькі чакаецца выручыць ад 5–працэнтнага падатку.

Асноўнымі праціўнікамі прыняцця рашэння тыдзень таму былі дэпутаты **Мікалай Батан** і **Анатоль Гадуцкі**. Іхнія аргументы: падаткаў будзе яшчэ менш, бо зменшыцца тавараабарот, павялічацца цэны тавараў. У выніку гандаль апынецца сапраўды ў роўных умовах – "лягуць" і дзяржаўны, і прыватны – на рынках.

Магчымы і адток іншагародніх прадпрымальнікаў, якіх таксама будзе тычыцца новы збор. Прычым незалежна ад таго, колькі разоў на месяц прыедзе канкрэтны гандляр на рынак.

Старшыня прафсаюзнай арганізацыі прадпрымальнікаў маладзечанскага рэчавага рынку **Тамара Багачова** лічыць:

– Большасць прадпрымальнікаў па выручцы стаіць "на нулях". Бо, прыкладам, падаткаў за гандлёвы пункт, згодна з новым рашэннем, трэба штомесяц плаціць 10–12 мінімалак. У той жа час на мінскім стадыёне "Дынама" – толькі 7. А тавараабарот і колькасць кліентаў на гэтых двух рынках непараўнальныя.

Т. Багачова прасіла знізіць стаўку падатку на 1 "мінімалку".

На сесію прыйшлі 14 дэпутатаў з 17. Каб рашэнне ўступіла ў сілу, патрэбна было 12 галасоў "за". За прыняцце рашэння ў цэлым (без абмеркавання падатковай стаўкі) у першы раз прагаласавала 8 дэпутатаў, супраць былі 4. Пасля далейшых спрэчак дэпутаты прынялі рашэнне перагаласаваць. Атрымалася 11 галасоў "за", 3 – "супраць" (**Мікалай Батан**, **Анатоль Гадуцкі** і **Пётр Капцёнак**). На гэты раз, як відаць, удзел у галасаванні бралі ўсе прысутныя.

На сённяшняй сесіі плануецца ўдзел усіх 17 дэпутатаў. Няшмат шанцаў на тое, каб тры дэпутаты, што адсутнічалі, прагаласавалі супраць. Рашэнне, хутчэй за ўсё, будзе прынятае. Практычна застаецца адкрытым толькі пытанне па канкрэтнай стаўцы падатку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Вёска бязлюднее

**АШМЯНЫ. У 33 вёсках і хутарах Ашмяншчыны засталося ўсяго па 1 жыхару.**

У 8 вёсках жывуць па два жыхары, яшчэ ў 19 – па тры. Найбольшая колькасць такіх пасяленняў у зонах вёсак Масцвілішкі і Каменны Лог. Сама меней дзяцей (на 100 жыхароў усяго 8) прыходзіцца на Даўкшышкскую зону.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# 400 ільготнікаў

**АСТРАВЕЦ. Ад пачатку года амаль 400 пакупнікоў–інвалідаў змаглі набыць прадукты харчавання на 5% танней ў краме "Старая пошта".**

Гэтыя лічбы ў гутарцы з карэспандэнтам "РГ" прывёў уладальнік крамы Сяргей Маўрын. Пра незвычайнае пачынанне прадпрымальніка наша газета пісала напачатку года.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ РЦГІЭ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Школу амаль закрылі

**МАЛАДЗЕЧНА. У выніку нядаўніх праверак спецыялісты цэнтра гігіены і эпідэміялогіі выявілі шэраг парушэнняў дзеючых санітарных правілаў і нормаў. На 55 службовых асоб накладзены адміністрацыйныя пакаранні. Сума штрафных санкцый склала 1008000 рублёў.**

У СШ №3, дзе не створаныя належныя ўмовы для захавання асабістай гігіены вучняў, намеснік дырэктара па адміністрацыйна–гаспадарчай частцы аштрафаваны двойчы.

Пастановы аб бракоўцы прадуктаў выносіліся на 10 прадпрыемствах гандлю горада і раёна (магазіны "Рэна", "Экспрэс", "Махаон", №3 у Лебедзеве, №17 "Хлеб" у Чысці, магазін "Гаспадыня" і інш.).

Па прычыне незахавання дзеючага санітарнага заканадаўства прыпыненая работа мясаперапрацоўчага цэха УП "Каапнарыхтпрам", сталовай РГАПГХ завода "Белмастацкераміка", басейна Маладзечанскага палітэхнікума, часткі сярэдняй школы ў Турэц–Баярах.

**Сяргей КАРАВАЙ,**
**загадчык санітарна–гігіенічнага аддзела РЦГІЭ.**

■ ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МЯДЗЕЛЬЦАЎ

# Чаго ж не хапае ў Мядзеле?

**Ала Клямяціч, навуковы супрацоўнік:**
– Месцаў, дзе маглі б бавіць час падлеткі. А яшчэ ў нашых крамах бракуе добрых тавараў.





**Святлана Чарняўская, галоўны захавальнік фондаў краязнаўчага музея:**
– Нестае забаў для жанчын, якім больш за 30 год. Няма куды схадзіць з дзіцем, каб выйсці, пасядзець, нешта смачнае купіць.



**Ігар Сухарукі, электрык:**
– Некалькі год, як Мядзел мае статус горада. А нармальнай лазні няма і да гэтага часу.

**Фотаапытанне мядзельцаў падрыхтавалі Юрый Карпіцкі і Яўген Стэльмах (фота).**

